# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Аўторак, 18 кастрычніка 1994 года | № 111 (10811) | Цана 30 руб.


ФАКТЫ ● ПАДЗЕІ
АРГУМЕНТЫ ● МЕРКАВАННІ

Маладзечанскія навіны

## Мільён — ад віцэ-прэм"ера

А пералічаны ён на рахунак Маладзечанскай спецшколы-інтэрната для дзяцей з парушэннямі зроку. Ініцыятар гэтай дабрачыннай акцыі — віцэ-прэм"ер Рэспублікі Беларусь Віктар Іосіфавіч Ганчар.

У пачатку верасня ён па запрашэнню Арганізацыі Аб"яднаных Нацый пабываў у Каіры, дзе ўдзельнічаў у рабоце Міжнароднай канферэнцыі па народанасельніцтву. Паездку аплачвала ААН. Грошы, якія засталіся пасля аплаты адпаведных расходаў, Віктар Ганчар і вырашыў перадаць Маладзечанскай спецшколе-інтэрнату. Напэўна, пэўную ролю ў гэтым рашэнні адыграў той факт, што зусім нядаўна ён быў намеснікам старшыні Маладзечанскага гарвыканкома, і надзённыя патрэбы дзіцячых устаноў падобнага тыпу яму добра вядомыя.

## Усё лепшае — дзецям

Менавіта так думалі мастакі-маладзечанцы Іван Смальякоў і Мікола Аўчыннікаў, арганізоўваючы выстаўку сваіх работ у сярэдняй агульнаадукацыйнай школе горада Маладзечна. Імёны абодвух мастакоў добра вядомы аматарам выяўленчага мастацтва не толькі ў рэспубліцы. На рахунку кожнага — удзел у дзесятках выставак, у тым ліку і ў замежных.

Цікава падабраныя творы, якія ўвайшлі ў экспазіцыю, знаёмяць дзяцей з рознымі стылямі, тэхнікай і жанрамі выяўленчага мастацтва. Пасапраўднаму хвалююць наведвальнікаў, вымушаюць задумацца аб лёсе народа серыі палотнаў Міколы Аўчыннікава. Яны маюць глыбокі філасофска-гістарычны сэнс: «Маладзечна», «Нарачанскі край», «Далёкае ад нас».

Запамінальныя вобразы народных герояў, святых створаны мастаком Іванам Смальяковым, які паспяхова працуе ў галіне жывапісу і станковай графікі.

Гэта ўжо другая сумесная выстаўка, падрыхтаваная мастакамі, якіх аб"ядноўвае не толькі прафесійны інтарэс, але і добрыя сяброўскія адносіны.

## Рухнуў дах. Загінулі людзі

Хто вінаваты ў трагічнай смерці двух чалавек? Адказ на гэтае пытанне шукаюць праваахоўныя органы горада Маладзечна.

На будоўлі сталярнага цэха малога прадпрыемства «Экабуд» панавала звычайная рабочая абстаноўка. Будаўнікі збіраліся ўцяпляць дах толькі што зманціраванага будынка. Бяда прыйшла нечакана. Дах рухнуў, пахаваўшы пад сабой двух чалавек. Пяцёра — шпіталізаваны.

Узбуджана крымінальная справа. Вядзецца следства.

## Лепш у турму, чым у армію

Прыблізна так разважаў, напэўна, жыхар Маладзечна А., які на працягу двух год хаваўся ад армейскага прызыву. Дзе ён толькі не пабываў за гэты час! Нават у далёкім замежжы. І ўсё ж праваахоўныя органы зрабілі сваю справу. А. затрыманы і прыцягваецца да крымінальнай адказнасці. Яму пагражае турэмнае зняволенне тэрмінам да пяці год. Гэта ў тым выпадку, калі за А. не лічыцца іншых злачынстваў. А такія ёсць. І яны адпрацоўваюцца.

*Марыя КУЗАЎКІНА.*

## Голас сэрца

***З Мінскага гарадскога свята "Дзень Маці"***

У прадмове да кнігі «Дзень добры, мама!» лаўрэат Дзяржаўнай прэміі рэспублікі паэт Сяргей Грахоўскі пераказаў старадаўнюю прытчу пра юнака, які па загаду няўмольнай і хцівай каханкі прынёс ёй у ахвяру матчына сэрца. Ён бег з ім у руках, моцна выцяўся аб камень і застагнаў. «Ой, табе ж баліць, сынок?! Ідзі цішэй, дзіцятка», — азвалася матчына сэрца.

Гэтыя радкі пра жанчыну, для якой кожная сынава драпіна прыносіла нясцерпны боль, няўдача дзяцей станавілася яе пакутай і горам, прыгадаліся на дабрачынным канцэрце ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі, прысвечаным святу «Дзень Маці». Сюды было запрошана 700 жанчын Мінска. Кожную сустрэлі з кветкамі, уручылі каштоўны падарунак. Інакш і быць не магло. Гэта людзі, якія тулілі кожнага з нас да сябе, адкрывалі нам хараство жыцця, яго няпростыя таямніцы, цёмнымі ночкамі студзілі нашы апаленыя хваробаю вусны, суровым паглядам гартавалі нашу душу. Калі мы пакідалі родны дом, яны ранялі скупую слязінку і іх вусны шапталі: «Хутчэй вяртайцеся!» І сёння нашы маці, вобразна кажучы, у баявым страі. Вучаць дзяцей, лечаць хворых, стаяць ля станкоў, водзяць трамваі і тралейбусы, носяць званні акадэмікаў і прафесараў, вырошчваюць хлеб. Ды хто назаве ўчастак, на якім не паказвалі б цудаў жаночыя рукі? А яшчэ ж яны вавалі, зямлянкі ладзілі. Усё лепшае, чым багатая іх душа, яны перадаюць сваім дзецям.

Словы адданасці і любові да жанчын-маці выказаў на вечары старшыня Мінскага гарвыканкома А.М.Герасіменка. Урачыста ўшаноўвалі на гэтым свяце жанчын, якія ўзначальваюць жаночыя таварыствы. Хто ж яны? Гэта і Ніна Антонаўна Лыч, якая кіруе дзейнасцю асацыяцыі малалетніх вязняў канцлагераў, і Таццяна Аляксандраўна Краўчанка, якая сама гадуе пяцярых дзяцей, а ўзначаліла асацыяцыю мнагадзетных маці і займаецца ўсімі іх праблемамі, і Людміла Міхайлаўна Сакалова, старшыня клуба жанчын-інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны, і Таісія Канстанцінаўна Пужэвіч, якая ўзначальвае жаночы Савет Мінска, і многія іншыя. Не крыўдуйце, што не назваў больш імёнаў. Каб выказаць усё тое, што робяць самаахвярніцы жаночага руху, не хопіць і дзесяці газетных старонак.

Для ўдзельнікаў свята быў падрыхтаваны цікавы канцэрт.

Тут названа толькі адно свята. А будзе іх праведзена яшчэ шмат. Гэты ж год абвешчаны Генеральнай асамблеяй ААН Годам сям'і.

*/Наш кар./.*

## Дakonкі

Цукровыя буракі заўсёды былі каштоўнай тэхнічнай культурай. Сёння ж, калі яна стала адзінай крыніцай атрымання цукру, яе вартасць узрасла шматразова. Раслінаводы гаспадарак добра разумеюць гэтую акалічнасць і адводзяць пад цукровыя буракі немалыя плошчы. Вось і ў калгасе "Гарадзейскі" Нясвіжскага раёна пад імі было сёлета 400 гектараў. Летняя засуха прымусіла буракаводаў сур"ёзна пахваляваца за лёс ураджаю. Але добрая запраўка глебы арганічнымі і мінеральнымі ўгнаеннямі ў адпаведнасці з патрабаваннямі картаграм дазволіла раслінам нармальна перанесці засуху і парадаваць працаўнікоў гаспадаркі неблагім ураджаем — з кожнага гектара сабрана па 250 ц каранёў.

Днямі ў калгасе закончана ўборка буракоў. Гэтую работу паспяхова выканалі механізатары.

**На здымках:** убіраюцца апошнія гектары; камбайнер Аляксандр **Вялько,** яго памочнік Васіль **Паўловіч** і трактарыст Іван **Гурын;** галоўны аграном калгаса Яўген **Абрамовіч** і брыгадзір Іосіф **Лабаноўскі** разам з механізатарамі.

*Іван АБАБУРКА.*
*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ Служба 01

## "SOS" подают пожарные

Этот пожар возник в колхозе «Большевик» Солигорского района. Огонь охватил животноводческое помещение. К месту происшествия были направлены подразделения пожарной службы не только райцентра, но и близлежащих межхозяйственных опорных пунктов. Исход тушения пожара зависел от того, как сработают именно сельские пожарные. Они первыми вступили в схватку с огнем, сдерживали его распространение до прибытия профессионалов из города. К сожалению, более 90 животных погибло. Хозяйству нанесен большой материальный ущерб.

За 9 месяцев в области произошло 2.455 пожаров. По сравнению с аналогичным периодом прошлого года их количество возросло на 6,6 процента. Жертвами огня стали 89 человек. Вдвое увеличилось число пожаров на животноводческих комплексах и фермах, огнем уничтожено 1.200 тонн грубых кормов.

Ситуация с пожарной безопасностью в области обостряется. Ежедневно на центральный пункт пожарной связи поступают тревожные сигналы. Огнем уничтожаются объекты промышленности и сельского хозяйства, дома и строения. Пожары забирают большую «дань».

К сожалению, тушить пожары на селе стало труднее. Дело в том, что раньше для их ликвидации мы направляли команды межхозяйственных опорных пунктов пожарной охраны. По решению облисполкома их было создано более 190, на базе 2—4 хозяйств в каждом районе. Те затраты на их содержание окупались сторицей.

Например, в том же 1992 году сельские пожарные в схватке с огнем трудились, как говорится, до седьмого пота. Они тушили лесные и торфяные пожары, выезжали по тревожным сигналам в населенные пункты, спасали от огня народное добро. Так было. Теперь же все нити взаимодействия оборвались. По сути дела сельчане остались один на один с огненной бедой. Да разве допустимо, чтобы на глазах у людей бушевал огонь, уносил человеческие жизни?

Совсем недавно в Столбцовском районе было 12 межхозяйственных опорных пунктов пожарной охраны. По решению райисполкома они были сосредоточены в тех хозяйствах, откуда пожарные прибывали к месту вызова в считанные минуты. Именно они оказывали помощь сельчанам в тушении пожаров. За 9 месяцев т.г. почти наполовину возросло количество пожаров по сравнению с аналогичным периодом прошлого года. На пожарах погибло 5 человек. Теперь на помощь сельчанам выезжает только пожарная команда из колхоза «Чырвоная зорка». Нет средств на содержание пожарной службы в колхозах имени Мичурина и «Родина Феликса Дзержинского», имени Янки Купалы, имени Ленина. О какой оперативности и эффективности тушения пожаров на селе можно говорить, если специальные машины стоят на приколе? И даже если бензин есть, стоит ли ехать из райцентра за 70 километров на пепелище.

Проблема очень острая. И здесь сельчане не виноваты. Они, как и горожане, исправно платят налоги, однако остаются в худшем положении, чем жители городов. Время идет, и экономический кризис в стране коснулся также сельских пожарных. Теперь колхозам и совхозам стало труднее изыскивать средства на содержание пожарных команд, техническое обслуживание, оплату труда людей. Вот почему повсеместно началась ликвидация этих подразделений.

Давно ведется разговор о том, что на содержание сельской пожарной службы должны поступать взносы от всех организаций и учреждений, расположенных на территории сельского Совета. Теперь на селе появились малые предприятия, коммерческие и другие структуры. Высокими темпами ведется строительство дачных товариществ. Пожар никого не выбирает и никого не щадит. Погорельцы считают, что защитить от огня их должны пожарные. Однако многие забывают о том, с каким трудом руководители коллективных хозяйств, которые содержат пожарную команду, находят топливо, изыскивают средства на заработную плату. И никто из погорельцев не спешит возместить те затраты, которые понесло хозяйство, помогая ликвидировать огненную стихию.

Давно назрела необходимость создать на селе единую государственную пожарную службу, такую же, как и в городах. Кто от этого выиграет? Безусловно, в первую очередь сельчане и в целом общество.

Вот почему в повестку дня очередной сессии Верховного Совета Республики Беларусь внесен на рассмотрение законопроект «О сборе на содержание пожарной службы». От сельчан поступают справедливые предложения по поводу налогов на содержание сельской пожарной охраны. Люди требуют, чтобы правительство приняло соответствующее решение. Они скажут только «спасибо» за заботу о сохранении народного добра и имущества.

*Александр ШИЛАК,*
*начальник управления военизированной пожарной службы УВД Миноблисполкома, подполковник внутренней службы.*

■ Вось так і жывём

## ЁСЦЬ І ЦУКАР, І ЦУКЕРКІ

Вёска Сорагі на Случчыне — глыбінка, 30 кіламетраў ад райцэнтра. Завітаў неяк сюды па справах і заглянуў у мясцовы магазін. Стаіць ён у цэнтры вёскі, даволі буйной, двароў на чатырыста. Зайшоў і быў здзіўлены тым, што прадуктовыя паліцы тут не бедныя. Хлеб завозяць рэгулярна са Старых Дарог — сюды бліжэй, чым да Слуцка. Няшмат — буханак семсот-восемсот. Ахвотна бяруць вяскоўцы белы, па 351 рублю. Ён не раўня слуцкаму батону: духмяны, з сотавым мякішам, як калісьці ў сітным. Паводле водгукаў пакупнікоў, не чарсцвее даволі доўга.

Былі ў продажы яйкі па 965 рублёў дзесятак, цукар — па 1.555. Адпускалі яго па спісу, вядома, сваім вяскоўцам. І цукеркі ажно пяці сартоў, у тым ліку і шакаладныя «Першакласніца» па 18.750 рублёў кілаграм. Спытаў у прадаўшчыцы Надзеі Браткоўскай, ці бяруць вяскоўцы такі далікатэс. Адказала, што па адной-дзве цукеркі бяруць — дзецям. Больш ахвотна купляюць мармеладныя. Яны і ў прыгожых каробках, і ў россып, па даволі памяркоўнай цане.

Былі ў той дзень у продажы і сардэлькі. Праўда, не вельмі свежыя, па 4.623 рублі за кілаграм, каўбасны сыр — па 4.889. Прадаўшчыца вытлумачыла, што заказвае звычайна каўбасных вырабаў не болей як 20 кілаграмаў. Якраз на тыдзень і хапае, бо вёска не вельмі кідкая на гэты тавар. У многіх ёсць сала і «пальцам пханая» каўбаса — не раўня магазіннай варанай.

Не пуставалі паліцы са спіртным, меліся ў продажы гарэлка «Руская» і «Сталічная», нейкія моцныя настойкі і нават бутэлечнае піва. А мяне, напрыклад, парадавалі поўныя паліцы з пачкамі чаю індыйскага, кафейнага напітку (па 320 рублёў), мукі ўсіх гатункаў, расфасаванай у поліэтыленавыя пакеты. І нават пчаліны мёд прадавалі па даволі памяркоўнай цане — 6.400 рублёў за кілаграм.

Пазней пазваніў у Казловіцкае сельпо, пацікавіўся, як тут ацэньваюць работу загадчыка магазіна Мікалая Міхневіча. Адказалі, што чалавек на сваім месцы, праяўляе ініцыятыву, клопат аб задавальненні запатрабаванняў сельскіх працаўнікоў. Толькі не ўсё яму пад сілу. Даўно няма на базе круп ячных і прасяных, рэдка бывае сала салёнае, хоць раней яно дэфіцытам не з"яўлялася. І тым не менш сорагаўцы сваім магазінам, па мерках сённяшняга дня, задаволены.

Тры месяцы назад у цэнтры саўгаса «Танежыцы» па ініцыятыве дырэктара Уладзіміра Дарашэвіча быў адкрыты фірменны магазін. Пад яго прыстасавалі адно з памяшканняў былога комплекснага прыёмнага пункта. Гандлююць тут таварамі па аптовых цэнах, без усялякіх «накрутак». Таму што завозяць іх непасрэдна ад вытворцаў, мінаючы пасрэднікаў. Цукар, напрыклад, рэалізоўвалі вяскоўцам па 750 рублёў за кілаграм. Крупы, іншыя прадукты — таксама таннейшыя, чым у дзяржаўных і райспажывецкіх магазінах.

У сярэднім на 25 — 40 працэнтаў ніжэйшыя цэны і на адзенне, абутак, гаспадарчыя тавары — тазы, вёдры, чыгуны і іншы посуд. У магазіне можна набыць і гатовыя вырабы мясцовага швейнага цэха. Матэрыял для яго таксама закупляе саўгас.

*Міхась ТЫЧЫНА.*
*Слуцкі раён.*



## Божа памажы, але і сам падбяжы

### На Мінскім гадзіннікавым заводзе аб"ёмы вытворчасці выраслі ў тры разы

Непрывычную для нашых дзён аб"яву: «Патрабуюцца...» можна сустрэць на Мінскім гадзіннікавым заводзе. Ствараецца ўражанне, што прадпрыемства знаходзіцца на ізаляванай ад усіх бед тэрыторыі, якую абмінаюць бушуючыя хвалі эканамічнага крызісу і інфляцыі. Бо хто толькі сёння не скардзіцца на разрыў гаспадарчых сувязей, неразбярыху і хаос у матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні! Вось адкуль, маўляў, растуць карані прастояў, рэзкага падзення аб"ёмаў вытворчасці.

Што ж, супраць фактаў цяжка пярэчыць. Статыстыка «радуе» нас падобнымі вынікамі, дасягнутымі ўсімі галінамі народнай гаспадаркі, ад якіх хочацца плакаць. А тут, аказваецца, ёсць калектыў, які сваімі канкрэтнымі справамі даказвае справядлівасць выслоўя: хто не хоча працаваць — шукае прычыну, а хто хоча штосьці зрабіць — шукае сродкі. Паказчыкі ж мінскіх гадзіншчыкаў проста ўражваюць.

Назавіце хоць адно прадпрыемства рэспублікі, якое б за два апошнія гады павялічыла выпуск прадукцыі ў тры разы. А менавіта такога прыросту дабіўся калектыў гадзіннікавага завода. Зараз выпрабляецца ў год 14 мільёнаў гадзіннікаў 250 мадэлей. У залежнасці ад моды і попыту. І ўсе яны рэалізуюцца. Прычым 70 працэнтаў вырабаў адпраўляецца ў Канаду, Англію, Францыю, Ганконг. Неўзабаве заваююць рынкі Бразіліі, Чылі, Ізраіля, ЗША.

Рост аб"ёмаў непазбежна выклікае патрэбу ў кваліфікаваных спецыялістах. Адсюль і стварэнне новых рабочых месц.

На Мінскім гадзіннікавым не чакалі, што пасля распаду Саюза ССР усе іх праблемы будзе вырашаць хтосьці іншы. Яны самі зрабілі ўсё магчымае для захавання адладжаных дзесяцігоддзямі гаспадарча-эканамічных кантактаў. Як гаворыцца, божа памажы, але і сам падбяжы. Інакш адразу закрывай прадпрыемства: да 97 працэнтаў камплектуючых завод атрымлівае за межамі рэспублікі.

Дапамагае знаходзіць агульную мову са сваімі пастаўшчыкамі аб"яднанне ў акцыянернае таварыства гадзіннікавых прадпрыемстваў Беларусі, Арменіі і Расіі. Гэта дыктуе і адзіную палітыку цэнаўтварэння, развіцця і ўдасканалення вытворчасці, укаранення новых тэхналогій. Так бы працаваць і іншым прадпрыемствам Міншчыны...

*Фёдар ПЯТРОЎ.*

■ Мясцовая ўлада: дзень за днём

# РЫХТУЙ, БАБУЛЯ, КАЖУШОК

## Сумныя нататкі з сесіі Нясвіжскага раённага Савета. Абмеркавана дзейнасць будаўнічых арганізацый ва ўмовах рыначнай эканомікі

Прыгадваецца мінулая марозная зіма. Будучы ў вёсцы Асмолава, зайшоў у дом-інтэрнат для састарэлых. У калідоры стаяла бабулька, скардзілася: «У пакоі хоць ваўкоў ганяй, холадна. Шкадую, што пакінула дома свой кажушок».

Цяпер на сесіі зноў /ужо каторы раз у сёлетнім годзе/ прагучала трывога: у доме-інтэрнаце не гатова да зімы газавая кацельня, кіраўніцтва ПМК-217 не зацікаўлена ў тым, каб аб"ект своечасова здаць у эксплуатацыю. Добра яшчэ, што не выкінулі старых катлоў, можа, працуючы на цвёрдым паліве, яны хоць крыху сагрэюць жыхароў інтэрната. Ды і тут сумненні: цяпер да цеплацэнтралі «прывязаны» 12-кватэрны дом для абслуговага персаналу. Значыць, «струмені цяпла» стануць яшчэ больш мізэрнымі.

Вядома, можна бясконца гаварыць аб цяжкім фінансавым становішчы, аб грымасах рынку. Але ж у дадзеным выпадку сродкі на завяршэнне кацельні і газавай сістэмы выдзелены. Будаўнікам, мусіць, няма ахвоты важдацца з такім аб"ектам: тут ніякага бартэру не атрымаеш, «голая капейка»...

Або такі прыклад. У калгасе «Беларусь» яшчэ летась павінны быць заселены восем аднакватэрных дамоў. Аднак з-за неразваротлівасці падрадчыкаў /ПМК-218 і яе начальніка А.Драздоўскага/ наваселлі сарваліся. Ёсць у гэтым віна і газавікоў, якія своечасова не падвялі блакітнае паліва. Цяпер фарба і тынк у дамах асыпаюцца, даводзіцца адну і тую ж работу выконваць па некалькі разоў. Калгас прад"яўляе ПМК-218 прэтэнзіі за невыкананне дагавора. Тыя заплацілі 18,6 мільёна рублёў са сваёй касы і цяпер наогул не хочуць заканчваць аб"ект.

У дакладзе старшыні райвыканкома У.Дражына прыводзіўся такі факт /ён, бадай, заслугоўвае ўвагі і падтрымкі/: акцыянернае таварыства «Новае жыццё» ўжо даўно ідзе па шляху стварэння жыллёва-будаўнічых кааператываў. Летась былі ўзяты крэдыты ў банку, што дало магчымасць весці будаўніцтва 15-ці аднакватэрных дамоў. Таварыства падстаўляе плячо дапамогі падрадчыкам — сваімі сіламі пракладвае цеплацэнтраль, водапровод, каналізацыю.

Гэта раней заказчык шукаў падрадчыка. Сёння ўсё наадварот. Кіраўніцтва ПМК-217 і ПМК-218 імкнуцца завязаць дзелавыя сувязі з тымі, у каго ёсць грошы. Праўда, нярэдка і тыя, у каго рахункі ў банку не пустыя, «плачуць» з-за нізкіх тэмпаў будаўніцтва. Так, для Гарадзейскай пасялковай бальніцы /тут ПМК-217 узводзіць памяшканне-стацыянар на 100 хворых, прыёмнае аддзяленне, харчблок/ сродкі, хоць і не рытмічна, але «выбіваюцца». Будаўнікі, між тым, вядуць работы і марудна, і няякасна. Даводзілася перарабляць нанава ўцяпленне даху стацыянара, бо былі дапушчаны адхіленні ад тэхналогіі. Пры сённяшніх цэнах на будматэрыялы гэта вялікая раскоша.

Асабліва не церпяць халтуры індывідуальныя забудоўшчыкі. У лепшым выпадку яны звяртаюцца ў ПМК, каб зрабілі так званы нулявы цыкл або прадалі цэмент, блокі, цэглу... Тыя ідуць на гэты варыянт з ахвотаю, бо маюць прыбытак з-за высокай працэнтоўкі. Пачаўся нездаровы для абедзвюх ПМК працэс: лепшыя спецыялісты звальняюцца. І паколькі ў раёне шырока разгорнута індывідуальнае будаўніцтва, дык высакакласныя муляры, цесляры, тынкоўшчыкі зарабляюць у некалькі разоў больш, чым на ранейшай рабоце. Прытым у апошні час разлікі з забудоўшчыкамі робяцца ўжо валютай.

Старшыня калгаса «Слава» І.Кендыш зазначыў, што трэба ўсяляк падтрымліваць будаўніцтва жылля і аб"ектаў сацкультбыту ў вёсцы. Інакш цяжка замацаваць там моладзь. Часта не хапае сродкаў, каб разлічыцца з будаўнікамі. А сродкі гэтыя месяцамі не вяртаюць гаспадаркам перапрацоўчыя прадпрыемствы. Атрымліваецца зачараванае кола.

Мабыць, таму не закончана будаўніцтва ўрачэбнай амбулаторыі ў тым жа калгасе «Слава», чатырох дамоў у калгасе імя Леніна, сталовай і кансервавага цэха ў калгасе «Нясвіжскі» і іншых аб"ектаў.

Не, традыцыйны метад работы будаўнічых арганізацый сёння цяжка «ўпісаць» у нашу рэчаіснасць. Матэрыялаў хапае. Быў бы толькі заказчык з тоўстым кашальком. Начальнік ПМК-23 меліярацыі М.Пілішчык з болем гаварыў аб тым, што іх фірма «садзіцца на мель», бо ранейшых «зручных» аб"ектаў, на якія дзяржава выдзяляла вялікія грошы, ужо не стала. Меліяратары становяцца будаўнікамі. Узводзяць для райцэнтра водазаборную станцыю, будуюць шэраг аб"ектаў у агракамбінаце «Сноў», вядуць асфальтаванне дарог. Тут імкнуцца захаваць калектыў, абараніць людзей ад катаклізмаў рынку.

Шмат аб чым гаварылася на сесіі. Здаецца, усё важнае, патрэбнае. І пастанова прынята «сугучная з часам». Бяда толькі ў тым, што, мусіць, выйшаўшы з залы, многія народныя выбраннікі вельмі хутка забудуцца аб усіх гэтых пунктах: «узмацніць», «прыняць да ведама», «паскорыць...» Не, без рэканструкцыі Саветаў не абысціся.

...А з галавы не выходзіць бабулька з Асмолаўскага дома-інтэрната. Пасінелая ад холаду, яна і сёння марыць аб кажушку...

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

■ Дабрачынная акцыя

# БАЛЬНІЦА ЗНАХОДЗІЦЬ ПАДТРЫМКУ

*Навасельскую бальніцу наведалі хрысціяне веры Евангельскай са Швецыі. Не першы год прыязджаюць яны ў вёску Наваселле Мінскага раёна да сваіх сяброў. Заўжды нешта прывозяць і для мясцовай бальніцы. Вось і на гэты раз не з пустымі рукамі завіталі да хворых замежныя госці.*

*Многія медыцынскія ўстановы нашай рэспублікі сёння дыхаюць на ладан. Сродкаў на ахову здароўя катастрафічна не хапае. У нялёгкіх умовах працуюць і тыя, хто стаіць на варце здароўя і жыцця насельніцтва. Таму можна было зразумець вялікую радасць медыкаў з Наваселля. Толькі ў добрым сне магло прысніцца ім такое багацце медыцынскага абсталявання і медыкаментаў. Шведскія вернікі перадалі бальніцы апараты для вымярэння гемаглабіну, інвалідныя каляскі, каталкі, пасцельныя рэчы і шмат іншага. Замежныя спецыялісты далі рэкамендацыі па абслугоўванню і ўстаноўцы абсталявання.*

*Пабывалі скандынавы і ў Навасельскай сярэдняй школе. Дзятве прыйшліся даспадобы іх падарункі.*

*Дарэчы, шведскія вернікі дапамагаюць у будаўніцтве царквы ў вёсцы Наваселле.*

*Юрый ЛОЙКА.*

*НА ЗДЫМКАХ: загадчыца бальніцы В.Дзянісава паціскае руку ў знак удзячнасці Стэну Спорэ; М.Коржык, рабочы саўгаса імя Ульянава, паказвае царкву сваім сябрам.*

*Фота Канстанціна ШОСТАКА.*

# ПЕДАГОГІ-ПЕРШАПРАХОДЦЫ

## працуюць у Дулебскім дзіцячым доме

У Дулебскім дзіцячым доме Бярэзінскага раёна створана лабараторыя па сацыяльнай педагогіцы і сацыяльнай рабоце. На яе рахунку шмат цікавых распрацовак. Ці ж не аб гэтым гаворыць той факт, што менавіта тут Міністэрства адукацыі і навукі рэспублікі правяло пасяджэнне калегіі, на якой высокую ацэнку атрымалі стваральнікі рэгіянальных праграм выхавання, заснаваных на мясцовых асяродках культуры і вясковых традыцыях. На базе гэтага дзіцячага дома ўжо некалькі гадоў плённа дзейнічае своеасаблівая педагагічная майстэрня. Дулебскія педагогі нярэдка ўручаюць гасцям кнігі, у якіх расказваецца пра іх перадавы вопыт, пра народныя традыцыі вёскі, яе лепшых людзей. Дарэчы, тут нават выдалі даведачны зборнік "Па матэрыялах друку аб Дулебскім дзіцячым доме-школе-дзіцячым садзе", у якім амаль 150 старонак. І на кожнай — цікавыя звесткі пра людзей, якія вучаць і выхоўваюць дзяцей у аддаленай ад райцэнтра вёсачцы. Гэта ж імі напісаны кнігі "Спадчына майго краю", "Дулебская краіна дзяцінства", "Гістарычная спадчына Бярэзіншчыны", "Народны лячэбнік" і іншыя. Пра некаторыя з іх "Мінская праўда" пісала на сваіх старонках.

І вось у рэдакцыю паступае яшчэ адзін пакет, у якім новыя выданні дулебскіх педагогаў-першапраходцаў. Цікавая фактура сабрана ў зборніку "Народныя педагагічныя традыцыі ў сістэме грамадскага выхавання па месцы жыхарства". Падрыхтаваў матэрыялы дырэктар дзіцячага дома, кіраўнік сельскай навукова-практычнай лабараторыі па сацыяльнай педагогіцы і сацыяльнай рабоце М.У.Грудзінскі. Ён з"яўляецца і ўскладальнікам яшчэ аднаго цікавага выдання — "Хатняй энцыклапедыі". На старонках гэтай кнігі аўтарам сабрана больш за тысячу парад. Яна адрасавана ўсім тым, хто ў вольны час не без задавальнення займаецца дамашнімі справамі, імкнецца многае зрабіць уласнымі рукамі, захапляецца нарыхтоўкамі і кансерваваннем, чыя прыхільнасць — кулінарныя эксперыменты, вырошчванне кветак на балконе ці падаконніку. Мікалай Уладзіміравіч зробіць усё, каб яго выхаванцы праз сваё жыццё пранеслі парады, сабраныя іх дырэктарам у кнізе "Хатняя энцыклапедыя".

Колькі на Міншчыне вёсачак, сваім лёсам падобных на Дулебы! Калі б у кожнай так шчыра і заўзята працавалі педагогі, наколькі б папрыгажэла наша жыццё, наколькі б мы сталі багацейшыя духоўна.

Адным словам, едзьце ў Дулебы па вопыт выхавання дзяцей на гістарычных і нацыянальных традыцыях. Не пашкадуеце.

*Уладзімір АНТОНАЎ.*

# КІРМАШ У ШКОЛЕ

Правесці кірмаш вырашылі на агульным бацькоўскім сходзе. Для гэтага быў створаны цэнтр, у склад якога ўвайшлі мастакі-афарміцелі, забеспячэнцы, эксперты па цэнах, прадаўцы, артысты, члены бацькоўскага камітэта. Узначаліла цэнтр завуч па выхаваўчай рабоце Святлана Аляксееўна Сідоранка. Вучні, настаўнікі, бацькі накіроўвалі ў цэнтр свае прапановы, пажаданні, заўвагі.

Адкрыла кірмаш вядучая — вучаніца 10-га класа Аксана Грыгор"ева. Слова даецца гаспадыні — дырэктару школы Ніле Дзмітрыеўне Цімохавай:

— У нас стала традыцыяй праводзіць восеньскі кірмаш. Жадаю ўсім цікавых сустрэч, прыемных пакупак, добрага настрою!..

На школьны двор вынеслі сталы. Кожны клас з густам аформіў сваю вітрыну. Вучні-прадаўцы былі апрануты прыгожа, у беларускім стылі, ветліва запрашалі купіць садавіну, агародніну, печыва. А пяклі гэтую прыгажосць мамы, бабулі і самі дзеці: пернікі мядовыя, пячэнне аўсянае, кулічы пшанічныя, пірагі слоеныя, пончыкі, абаранкі, вафлі з павідлам, тарты — на любы густ. Цэны на ўсё — як у застойны перыяд: зусім сімвалічныя.

Умела працавалі зазывалы:

— Запрашаем, запрашаем! Вас чакае залацістая цыбуля, румяныя яблыкі, салодкая морква, пузатыя кабачкі, зялёныя агуркі!

— Не шкадуйце грошай, усё такое таннае і вельмі смачнае — абліжаце пальчыкі!

Вучні прадавалі і тое, што зрабілі сваімі рукамі: цацкі з рознага матэрыялу, прыхваткі, фартухі для кухні, пано, аплікацыі, вышытыя і вязаныя сурвэткі, абрусы, плеценыя з саломкі вазы, выразаныя з дрэва рамкі, вязаныя шапачкі...

Усяго было так многа. Прадаўцы — добразычлівыя, настрой — святочны, прыўзняты, а тут вядучая запрашае на канцэрт. І ўсе спяшаюцца да імправізаванай сцэны.

Доўга ішоў канцэрт, у якім прынялі ўдзел вучні 5—10 класаў. А кірмаш шумеў, запрашаў набыць патрэбныя рэчы. На школьны двор прыйшлі не толькі бабулі, а і многія жыхары вуліцы, дзе знаходзіцца СШ № 7 г.Барысава. І мне падумалася: як добра, што ў нашым горадзе, у СШ № 7, ёсць такія добрыя, разумныя настаўнікі, якія ўмеюць арганізаваць вучняў на карысныя справы, разумна правесці вольны час. Сярод іх Вольга Мікалаеўна Іванова, Таццяна Дзмітрыеўна Матузко і іншыя.

Грошы, выручаныя на кірмашы, пойдуць на патрэбы школы.

А ўвечары ў СШ № 7 адбыўся восеньскі баль для старшакласнікаў.

*Святлана СМОЛЬСКАЯ,*
*настаўніца беларускай мовы і літаратуры.*

# У "Верасе" — шмат пакупнікоў

У гарпасёлку Фаніпаль Дзяржынскага раёна створана шмат камерцыйных структур, якія заняты выпускам тавараў народнага спажывання, аказаннем паслуг насельніцтву. Асабліва ў сферы будаўніцтва, аўтаперавозак, быту і г.д. Іх сіламі з пачатку года рэалізавана прадукцыі больш як на 500 мільёнаў рублёў.

Адкрываюцца прыватныя гандлёвыя крамы. Першай гасцінна расчыніла дзверы "Хрысціна" беларуска-польскай фірмы "Лемарк". Тут па даступнай цане можна набыць спартыўныя касцюмы, прылады, іншыя тавары. А нядаўна адкрылася яшчэ адна крама пад лірычнай назвай "Верас". Пакупнікі ахвотна наведваюць гандлёвую кропку, бо цэны тут на 10 працэнтаў ніжэйшыя, чым у дзяржгандлі.

*Анатоль ШАРАЕЎ.*

■ Ацэняць нашчадкі

# НА РАДАСЦЬ ЛЮДЗЯМ

**Хто-хто, а работнікі лясной гаспадаркі цвёрда прытрымліваюцца правіла: "Ссек дрэва — пасадзі два". Вось і ў Пухавіцкім раёне яны штогод шмат увагі ўдзяляюць пасадцы новых лясоў. Маладымі насаджэннямі пакрываюцца не толькі тыя ўчасткі, дзе ў свой час нарыхтоўвалася дзелавая драўніна, але і рэкультываваныя землі, якія перададзены для далейшага выкарыстання лясгасу.**

У апошні час клопатаў пухавіцкім лесаводам дабавілі пажары. Асабліва пасля засушлівага лета 1992 года, калі на значных плошчах насаджэнні былі знішчаны ўшчэнт.

— Як вядома, дрэва расце вельмі доўга, — гаворыць інжынер па лясных культурах А.Галавач. — Таму мы як мага хутчэй імкнёмся закласці новыя лясы. Балазе пасадачнага матэрыялу ў гадавальніку Рудзенскага лясніцтва, які займае 5,5 гектара, дастаткова. У наяўнасці тут саджанцы сасны, елкі, дуба, бярозы. Вось і выкарыстоўваем гэтае багацце для пасадкі новых лясоў. Прынамсі, сёлета занялі ўжо 188 гектараў, з якіх на 145 гектарах размясціліся саджанцы сасны, на 12 — елкі, на 22 — бярозы і на 9 гектарах — дуба.

Работнікі Сяргеевіцкага лясніцтва пасадзілі малады лес на плошчы 50 гектараў. Дарэчы, зроблена гэта толькі на гарэльніках. На 22 гектарах такіх жа плошчаў закладзены маладыя лясы ў Вецярэвіцкім, на 13 — у Рудзенскім, на 12 — у Шацкім лясніцтвах. Усяго ж на былых пажарышчах адноўлена 103 гектары лесу.

Амаль 40 гектараў заняў сёлета малады лес і на тарфяніках. У гэтым напрамку добра вядзецца работа ў Шацкім, Рудзенскім і Пухавіцкім лясніцтвах.

...Міне час — і на радасць людзям зашумяць, загамоняць лясы. Аматары грыбоў і ягад добрым словам успомняць работнікаў лясной гаспадаркі — тых, хто сёлета паклапаціўся аб пасадцы тысяч і тысяч маладых дрэўцаў.

*Мікалай ГРЫГАРОВІЧ.*

50

# Камандарм-46

***Новы, 1945 год генерал А.Петрушэўскі сустрэў у Венгрыі, камандзірам корпуса. У гэты час працягваліся баі на берагах Цісы.***

***І тут новае прызначэнне: камандуючым 46-й арміяй. Заступаючы на пасаду, Аляксандр Васільевіч у гутарцы з камандуючым войскамі 2-га Украінскага фронта Маршалам Савецкага Саюза Р.Я.Маліноўскім не мог не выказаць сумнення: ці справіцца ён з даручанай справай?***

— Безумоўна, — падбадзёрыў Радзівон Якаўлевіч. — Ваенны савет фронта верыць вам. І заўсёды ў цяжкую хвіліну дапаможам...

І вось першая аперацыя. 46-й арміі ў паласе галоўнага ўдару дзеянняў 2-га Украінскага фронта трэба было разграміць моцную групоўку праціўніка, якая была сканцэнтравана на захад ад Будапешта. Наступаць патрэбна было па перасечанай і лясістай мясцовасці, у агульным напрамку на буйны горад у паўночна-заходняй частцы Венгрыі—Дзьёр.

17 сакавіка 1945 года наступленне пачалося. У цяжкіх баях ударная групоўка 46-й арміі прарвала абарону ворага і перамясцілася ў заходнім напрамку на 40 кіламетраў. А на адзінаццатыя суткі войскі арміі авалодалі Комарамам і Дзьёрам, ачысцілі ад гітлераўцаў дунайскае ўзбярэжжа да вусця ракі Мал. З вялікім задавальненнем успрыняўшы даклад камандарма-46, Маліноўскі распарадзіўся:

— Працягвайце праследаванне праціўніка. Рыхтуйцеся да ўдару на Вену...

Пасля ўпартых баёў 13 красавіка савецкія войскі авалодалі Венай. Актыўны ўдзел у гэтай аперацыі прынялі войскі 46-й арміі. Тут, у раёне Чэске-Будзеёвіцы, і завяршылася франтавая біяграфія генерал-лейтэнанта Аляксандра Васільевіча Петрушэўскага.

А пачалася яна 23 чэрвеня 1941 года на роднай беларускай зямлі, пад горадам Маладзечна. У той час камбрыг Петрушэўскі быў начальнікам штаба 13-й арміі.

За плячыма гэтага таленавітага военачальніка былі ўжо 23 гады службы ў Чырвонай Арміі. Аляксандр Васільевіч нарадзіўся 9 кастрычніка 1898 года ў старадаўнім беларускім горадзе Лунінцы ў сям"і служачага. Пасля сканчэння гімназіі Саша Петрушэўскі служыў у арміі. У час першай сусветнай вайны ён праявіў храбрасць і мужнасць. Аляксандра Петрушэўскага паслалі вучыцца ў пяхотнае вучылішча, якое скончыў у 1916 годзе.

Калі пачалася грамадзянская вайна, 19-гадовым юнаком Аляксандр Петрушэўскі ўступіў у рады Чырвонай Арміі. У якасці камандзіра батальёна, памочніка камандзіра і камандзіра палка ён адважна змагаўся з ворагамі Рэспублікі Саветаў на Паўднёвым і Каўказскім франтах.

Ужо напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны Петрушэўскі стаў адным з самых адукаваных военачальнікаў Чырвонай Арміі. Ён скончыў курсы "Выстрал", Ваенную акадэмію імя Фрунзе, Ваенную акадэмію Генеральнага штаба, быў выкладчыкам курсаў "Выстрал" і Ваеннай акадэміі імя Фрунзе. Затым Петрушэўскі служыць начальнікам штаба дывізіі, а ў 1938 годзе прызначаецца на адказную пасаду намесніка начальніка штаба Беларускай асобай ваеннай акругі, а пазней — начальніка штаба 13-й арміі.

З канца чэрвеня 1941 года войскі арміі вялі абарончыя баі ў Мінскім умацаваным раёне, на барысаўскім напрамку і на рацэ Днепр. Нягледзячы на цяжкія абставіны, якія склаліся ў пачатку Вялікай Айчыннай, часці 13-й арміі з першых дзён вайны пакрылі сябе неўміручай славай. Асабліва стойка і мужна змагаліся на подступах да Мінска байцы і камандзіры 100-й стралковай дывізіі.

Абарончыя баі 13-й арміі ў Мінскім умацаваным раёне не прывялі да значных аператыўных вынікаў. І разам з тым іх нельга недаацэньваць. Яны прадэманстравалі высокую баяздольнасць савецкіх войск. Гэтыя баі, якія сталі першай абарончай аперацыяй 13-й арміі, затрымалі праціўніка пад Мінскам больш чым на трое сутак. У баях пад Мінскам гітлераўцы панеслі значныя страты, што адбілася затым на тэмпах іх наступлення.

Немалую ролю ў баявых поспехах арміі адыграў яе начальнік штаба генерал-маёр, а потым генерал-лейтэнант Аляксандр Васільевіч Петрушэўскі, які знаходзіўся на гэтай пасадзе з 5 мая 1941 года да 20 снежня 1943 года. Яму прыйшлося ваяваць пад кіраўніцтвам шасці камандуючых. Усе яны цанілі работу Петрушэўскага, дакладней — работу штаба арміі пад яго кіраўніцтвам. Мяняліся камандуючыя, а начальнік штаба заставаўся той жа. Што гэта — добра ці дрэнна? Цяжка сказаць. Хутчэй за ўсё, вышэйшае камандаванне было перакананана, што кіраўніцтва штабам 13-й арміі ў надзейных руках.

Мабыць, такая думка аб Аляксандру Васільевічу склалася ў вышэйшага камандавання пасля гераічнай абароны Магілёва. Менавіта ў баях пад Магілёвам у ліпені 1941 года праявілася аператыўнае майстэрства Петрушэўскага, яго разуменне абстаноўкі, уменне маneўраваць войскамі ў выключна цяжкіх умовах. Нягледзячы на перавагу гітлераўцаў у жывой сіле і тэхніцы, асабліва ў авіяцыі, злучэнні 13-й арміі ля Магілёва амаль на тры тыдні скавалі праціўніка, нанеслі яму адчувальныя страты раптоўнымі контратакамі. Гераічная абарона Магілёва — знамянальная вяха ў гісторыі 13-й арміі і ў франтавой біяграфіі генерала Петрушэўскага.

... Больш ста дзён абодва бакі ў раёне Курскага выступу рыхтаваліся да бітвы. 13-я армія займала абарону фронтам на поўнач, маючы ў тыле Альхаватку і Курск. Ніколі яна не была такая моцная, як цяпер, налічвала больш за 150 тысяч асабовага саставу.

За 5 дзён жорсткіх баёў вораг прайшоў наперад усяго толькі 10-12 кіламетраў, не вырашыўшы прарыву тактычнай зоны абароны арміі, а страціў ён перад яе фронтам 42 тысячы забітымі і параненымі, звыш 600 танкаў і самаходных гармат і 500 самалётаў.

Нягледзячы на тое, што камандуючыя 13-й арміяй высока ацэньвалі дзейнасць генерала А.В.Петрушэўскага на пасадзе начальніка штаба арміі, Аляксандр Васільевіч імкнуўся на камандную работу. І вось доўгачаканы дзень настаў. Яго прызначаюць камандзірам 104-га стралковага корпуса.

Ваенны талент генерал-лейтэнанта Петрушэўскага асабліва праявіўся ў час Яска-Кішынёўскай аперацыі. Войскі 104-га стралковага корпуса ў ходзе наступлення на тэрыторыі Румыніі 20 жніўня 1944 года прарвалі абарону праціўніка на паўночны захад ад горада Ясы, пераадолелі Трансільванскія Альпы і, прайшоўшы 600 кіламетраў, к 10 верасня выйшлі да горада Піцешты. За гэты перыяд ворагу быў нанесены вялікі ўрон у жывой сіле і баявой тэхніцы, узята ў палон да 6 тысяч гітлераўцаў. 13 верасня 1944 года камкор-104 стаў Героем Савецкага Саюза.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны А.В.Петрушэўскі быў камандуючым арміяй, начальнікам штаба Закаўказскай ваеннай акругі, першым намеснікам камандуючага войскамі Заходне-Сібірскай ваеннай акругі, начальнікам Ваеннай акадэміі. Аляксандр Васільевіч быў галоўным ваенным саветнікам у Кітайскай Народнай Рэспубліцы. З 1960 года генерал-палкоўнік Петрушэўскі — у адстаўцы.

Ваенны талент, храбрасць і мужнасць, аператыўнае майстэрства і стратэгічнае мысленне Аляксандра Васільевіча былі высока ацэнены Камуністычнай партыяй і Савецкім урадам. Петрушэўскі быў узнагароджаны трыма ордэнамі Леніна, пяццю ордэнамі Чырвонага Сцяга, ордэнам Кутузава першай ступені, двума ордэнамі Суворава другой ступені, ордэнам Чырвонай Зоркі, медалямі. Яго не стала ў кастрычніку 1976 года.

Жыццё і дзейнасць гэтага таленавітага савецкага военачальніка дастойныя таго, каб яго імя назаўсёды засталося ў памяці беларускага народа.

*Эмануіл ІОФЕ,*
*доктар гістарычных навук.*

